# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

| № 1 (256) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 7 СТУДЗЕНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР. |
|---|---|---|---|

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ЧАГО ВЫ СПАДЗЯЕЦЕСЯ АД 1962 ГОДА?

АДКАЗВАЕ СТАРШЫНЯ ГП БГКТ ЛІДЗІЯ БЯЛЕЦКАЯ



Канец і пачатак каляндарнага года заўсёды з'яўляецца тым кульмінацыйным пунктам, калі кожная інстытуцыя ці грамадская ўстанова імкнецца падсумаваць вынікі гадавой працы, аналізуе дасягненні і недахопы. Беларускае грамадска - культурнае таварыства вітае Новы 1962 год новымі дасягненнямі ў галіне асветы і культуры. У мінулым годзе поўнасцю ўкамплектаваўся і палепшыўся дабор кадры працаўнікоў нашага таварыства, што дае магчымасць выконваць свае абавязкі на вышэйшым узроўні. Дзякуючы лепшай арганізацыі працы з кожным годам павышаецца ўзровень навучання ў нашых беларускіх школах. Паступова пашыраецца асвета для дарослых, ужо ў сучасны момант маем 7 вячэрніх курсаў навучання беларускай мовы і літаратуры. Сарганізавана 20 сталых лектарскіх пунктаў, дзе праводзяцца лекцыі на розныя тэмы: сельскагаспадарчага характару, юрыдычныя парады, даклады, які закранаюць пытанні бягучай палітыкі. Гэтую форму працы неабходна пашырыць у гэтым годзе, з тым, што трэба ўзбагаціць тэматыку лекцый, зрабіць яе больш цікавай і разнастайнай.

Наглядаюцца дасягненні і ў галіне мастацкага руху. Калектыў песні і танца пры ГП пад кіраўніцтвам дырыжора Г. Куляшэвіч рыхтуе новую цікавую праграму, з якой выступіць у канцы лютага.

Эстрада «Лявоніха» у мінулым годзе дала каля 300 канцэртаў у самых аддеглых вёсках нашага ваяводства і па-за яго межамі. Новы год сустракае эстрада новай праграмай. Праца эстрады павінна разгарнуцца шырэй. Тым больш, што ў канцы 1961 г. яна атрымала цэнны падарунак — мікробус «Нысу», які дзяржава прыдзяліла Таварыству для культурна - асветных мэт, што палепшыць умовы падарожжа ўдзельнікам эстрады. Апрацоўваючы план дзейнасці 1962 года, ГП брала пад увагу недахопы і новыя заданні, якія стаяць перад намі. Распрацаваны ўдзел Таварыства ў мерапрыемствах звязаных са святкаваннем 20-ай гадавіны паўстання ППР. Будуць праведзены шматлікія даклады, гутаркі праз радыёвузлы і лектарскую групу

(Працяг на стар.5)



БЕЛАСТОЦКІЯ «ПЛЯНТЫ» ЗІМОЮ. Фота: Г. Рагазінскі

## СТЫПЕНДЫЯ, І ШТО ДАЛЕЙ

У нашых вышэйшых навучальных установах навука не толькі бясплатная, але дзяржава забяспечвае студэнтам утрыманне — даюцца стыпендыі і памяшканне ў інтэрнаце. Самыя здольныя студэнты, якія многа абяцаюць на будучыню, атрымліваюць нават спецыяльныя стыпендыі.

Дагэтуляшняя стыпендыяльная сістэма не вытрымала перад пазітыўным вырашэннем справы адносна працы абсальвентаў вышэйшых навучальных устаноў. Справа ў тым, што студэнт у час навукі атрымліваў стыпендыю, карыстаўся месцам у студэнцкім доме, адным словам — на яго навуку выдаваліся дзяржаўныя, нашы супольныя грошы, а калі такі студэнт стаўся абсальвентам, шукаў працы на сваю руку. «Рыба — дзе глыбей, чалавек — дзе лепей», — гаворыць народная прыказка. Але малады, без жыццёвай практыкі чалавек не заўсёды можа знайсці сабе месца працы, каб апраўдаць перад грамадствам, перад дзяржавай усю апеку і здабыццё прафесіі ў час навукі. Гэтая поўная свабода і стыхійнасць у пошуках і падыманні працы абсальвентамі не ідзе на карысць не толькі запатрабаванням грамадска - дзяржаўнага значэння, але нават не ідзе на карысць самім абсальвентам. Чаму? Маладыя людзі часта з'яўляюцца славалюбнымі, маюць амбіцыі не быць падобнымі да людзей свайго асяроддзя.

(Працяг на стар. 4)

АКТЫВІСТАМ, ЧЛЕНАМ І СІМПАТЫКАМ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА ЖАДАЕМ У НОВЫМ 1962 ГОДЗЕ ДАЛЕЙШЫХ ПОСПЕХАЎ У ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ І ШЧАСЦЯ Ў АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ.

ГП БГКТ



НАШЫМ ЧЫТАЧАМ І СІМПАТЫКАМ ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ НАВАГОДНІЯ І СВЯТОЧНЫЯ ПАЖАДАННІ!

РЭДАКЦЫЯ



## УВАГА, НОВЫ КОНКУРС!

АД 1 СТУДЗЕНЯ ДА 30 КРАСАВІКА 1962 года ПРАВОДЗІЦЦА НОВЫ, ЦІКАВЫ КОНКУРС ПАД ЛОЗУНГАМ „ЧЫТАЕМ КНІЖКІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ"

І УЗНАГАРОДА — 1000 зл.
ІІ УЗНАГАРОДА — 800 зл.
ІІІ УЗНАГАРОДА — 700 зл.
ТРЫ IV УЗНАГАРОДЫ ПА 500 зл.

Аб умовах конкурсу чытайце на стар. 7.

МІХАІЛ ДУДЗІН

## БУРШТЫН

Бурштыну зыркага драбок,
Нібы заранкі зрок,
У падарунак нам з табой
Вячорны даў прыбой.

Празрысты, як крася акрас,
Як з красак чысты мёд,
Да іншых дойдзе, як да нас
Дайшоў праз безліч год.

Стагоддзяў дар, ён выплыў з дна,
Стуль, дзе зямля цвіла,
А ў глыбіні яго відна
Застылая пчала.

І я над безданню часін
Гатовы у палёт,
Дазнацца каб, з якіх раслін
Яна збірала мёд.

Люблю жыццё. Яно расказ
Вядзе насустрач дням.
Якое шчасце ёсць у нас —
Вядома толькі нам.

Цяпер ужо не наўздагад
Наш розум знойдзе ход,
Каб знаць, дзе ёсць сапраўдны яд
І дзе сапраўдны мёд.

Любоў, яе не ўзяць гадам,
Не адабраць любоў.
Я сам, я сам яе раздам,
Каб зноў, і зноў, і зноў

Яна на радасць маладым
Святлістым бурштыном
Скрозь сотні год прыйшла к жывым
Гарэць жывым агнём.

## КАБ ЛЕПШ ПРАЦАВАЛІ ГУРТКІ БГКТ

... — А цяпер наступнае пытанне: «Як я буду працаваць, калі вярнуся з курса дамоў?». Адказваць ахвотных ёсць многа. А вось гаворыць Ніна Аліхфер з Семяноўкі (Гайнаўскі павет).



Люба Мінько. Яна была найлепшай салісткай курса.

— Мы будзем намагацца, каб як найшырэй, самім знаёміцца і знаёміць насельніцтва з нашай прыгожай беларускай літаратурай, будзем намагацца, каб родны часопіс «Ніва» знайшоўся ў кожнай хаце. Будзем імкнуцца да таго, каб нашы юнакі і дзяўчаты вучыліся ў школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, каб у вёсцы быў сарганізаваны кулінарны курс і курс крою і шыцця. Наш гурток БГКТ шмат папрацаваў пры будове вясковай крамы. Грамадскім чынам мы таксама правядзем рамонт святліцы.

Але каб добра, паспяхова працаваў гурток БГКТ, неабходна наладзіць супрацоўніцтва з партыйнай арганізацыяй, з Прэзідыум грамадскай рады нарадовай, з Саюзам сялянскай моладзі, а таксама з іншымі арганізацыямі, існуючымі ў данай мясцовасці. Аб гэтым вельмі добра расказала Жэня Драўноўская з Нарвы, якая працуе там светліцовай.

Вольга Раецкая з вёскі Галады (Бельскі павет) падкрэслівае тое, што курс для актыву гурткоў БГКТ даў вельмі многа. Праўленні гурткоў не заўсёды ведалі, як арганізаваць працу, на што звяртаць галоўную ўвагу. Яна дае поўныя глыбокія адказы на ўсе пытанні старшага інструктара Галоўнага праўлення БГКТ Сакрата Яновіча, які вёў вечарыну - конкурс на найлепшы адказ, звязаны з працай гуртка, а таксама на найлепш выкананую беларускую песню.

А песню любяць усе ўдзельнікі курса. Сярод іх многа ёсць таленавітых выканаўцаў. А вось некаторыя з іх: Марыся Мішчук з Арэшкава, Сцяпан Гадзінскі з Катлоў, Зоя Якімчук з Крывой, Славамір Марчук, Валя Мароз з Койлаў,



Удзельнікі курса ў «Ніве».



Славамір Марчук найлепшы гумарыст курса.

Вера Кураш з Навасад, Люда Грыгарук з Галадоў і іншыя.

Люба Мінько з Трасцянкі спявала песню «Чаго стаіш вада мутна». Журы прызнала ёй першае месца, а старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Лідзія Бялецкая ўручыла ёй кніжную ўзнагароду.

*

У двух 4-охдзённых курсах сарганізаваных для актыву гурткоў БГКТ, узяло ўдзел 69 асоб. Яны пазнаёміліся з заданнямі і формамі дзейнасці гурткоў БГКТ з палітыкай партыі ў нацыянальных справах, з тым, як павінен працаваць добры гурток на вёсцы.

Цікава прайшлі спатканні: з «Нівай», з прадстаўніком Ваяводскага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў інжынерам Чэславам Рашкоўскім і з прадстаўніком Ваяводскага праўлення Саюза сялянскай моладзі Віталісам Ельскім.

Як сцвярджалі многія прадстаўнікі гурткоў БГКТ, пройдзены імі курс дапаможа паставіць дзейнасць гурткоў на вышэйшы ўзровень. Вось менавіта гэтага мы ім таксама ад усёй душы жадаем. (мх)

## СТЫПЕНДЫЯ – і што далей

(Працяг са стар. 1)

Гэта адносіцца перш за ўсё да выходцаў з вёскі, якія пасля заканчэння навукі імкнуцца застацца ў горадзе, зрабіцца гарадскімі людзьмі.

Я знаю многа абсальвентаў варшаўскіх вышэйшых навучальных устаноў, якія паходзяць з вёскі Беласточчыны, і якія засталіся жыць у Варшаве. Яны часта працуюць не па сваёй прафесіі, здабытай у час навукі, але толькі абы... у сталіцы. А калі чалавек працуе не па сваёй прафесіі або не па свайму прызванню, дык зразумела, што праца яго будзе мала эфектнай грамадству і сабе. Атрымліваюцца нараканні, што «закончыў універсітэт, а мала зарабляю і цяжка мне жывецца».

А вось, напрыклад, у Дуброве, сядзібе «маладога» павета адчуваецца недахоп высокакваліфікаваных настаўнікаў і іншых спецыялістаў. Павятовыя ўлады ствараюць там пачынаючым працу нядрэнныя матэрыяльна - жыллёвыя ўмовы. Доступ да культурных мерапрыемстваў? Ён напэўна крышку завужаны ў параўнанні з Варшавай, але затое існуюць магчымасці стваральнай працы ў галіне наладжвання культурнага жыцця, што прыносіць інтэлігентнаму чалавеку задавальненне.

Трэба таксама мець на ўвазе тое, што па-за сваім вузкім інтарэсам трэба бачыць грамадска - дзяржаўны інтарэс. Напрыклад, ажыццяўленне рэформы нашага школьніцтва, перш за ўсё ў напрамку палітэхнізацыі патрабуе павелічэння настаўніцкай кадры і то высокакваліфікаванай. І як жа тут не пагадзіцца з тым, што частка людзей з вышэйшай адукацыяй павінна знайсціся ў вёсках, працаваць непасрэдна ў школьніцтве. Ці патрэбнае тут усведамленне? Не, патрэбная свядомасць, што грамадства дае студэнту і мае права патрабаваць ад абсальвента.

І таму вельмі правільнае ў нас змяненне стыпендыяльнай сістэмы. Яно заключаецца ў тым, што з прызнавання студэнтам звычайных дзяржаўных стыпендый пераходзіцца на фундаваныя стыпендыі. Практычна: прадпрыемства або ўстанова прыдзяляе данаму студэнту стыпендыю, падпісвае спецыяльную ўмову, якая забавязвае стыпендыста пасля заканчэння навукі выконваць прафесіянальную працу ў фундатара. Гэта стварае магчымасць планавання і каардынацыі ў шырокім маштабе падрыхтоўкі кадраў для ўсіх галін гаспадаркі і культуры, а таксама ліквідуе, прынамсі ў пэўнай ступені, прывілегіі раёнаў краіны, вынікаючыя з дагэтуляшняй стыхійнасці пошукаў і падымання працы абсальвентамі вышэйшых навучальных устаноў. Нас пацікавіла, як прадстаўляецца справа фундаваных стыпендый у нашым ваяводстве.

У бягучым навучальным годзе Беластоцкае ваяводства фундуе 977 стыпендый (у гэтым ліку 132 працягваецца з мінулых навучальных гадоў). Стыпендыстамі з'яўляюцца студэнты розных вышэйшых навучальных устаноў Польшчы. Прыведзены вышэй лік стыпендый фундуе Ваяводская рада нарадовая і Павятовыя рады ў ваяводстве. Невядомым з'яўляецца нам лік фундаваных стыпендый з тэрыторыі ваяводства, фундатарамі якіх з'яўляюцца прадпрыемствы, падлягаючыя цэнтральным ведамствам.

— Найбольш стыпендый маем для студэнтаў — будучых настаўнікаў матэматыкі і фізікі, затым многа стыпендый фундуем для будучых спецыялістаў у галіне сельскай гаспадаркі, якіх нам трэба нямала, — гаворыць кіраўнік Аддзела па справах працы ВРН у Беластоку тав. Ян Гарбачэўскі.

Фундаваныя стыпендыі даюцца студэнтам пачынаючы ад II года навукі. Велічыня стыпендыі налічвае на II і III курсах 600 зл., а на IV і V — 660 зл. у месяц і выплачвасцца на працягу года (нармальныя дзяржаўныя стыпендыі плаціцца студэнтам толькі 10 месяцаў у даным навучальным годзе).

Пакуль што студэнты - стыпендысты маюць выбар, бо пераход на сістэму фундаваных стыпендый, можна сказаць, толькі што распачаўся. Але праз некалькі год сістэма фундаваных стыпендый ахопіць усіх студэнтаў - стыпендыстаў, і тады выбару ўжо не будзе. Але аказваецца, што стыпендысты неахвотна падпісваюць умовы з фундатарамі, хаця, памятаю, што некалькі год таму на бурных сваіх сходах - сустрэчах з прадстаўнікамі Міністэрства вышэйшай адукацыі і іншых міністэрстваў студэнты патрабавалі ўвядзення сістэмы фундаваных стыпендый. А цяпер — не! Ці гэта таму, што, як кажуць: студэнты — народ, якому не дагодзіш. Хіба так,

## МІХАСЬ ЗАБЭЙДА – СУМІЦКІ

ПЯТРО ЛАСТАЎКА

Беларусы часта праяўляюць надта вялікую скромнасць, хоць і маюць і чым і кім ганарыцца. Мы, на жаль, не ўмеем гаварыць аб сваіх дасягненнях і аб сваіх талентах, а можа думаем, што не варта выхваляцца перад іншымі гэтымі дасягненнямі? Праўдай з'яўляецца і тое, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі, а вялікая колькасць беларусаў, якія знаходзіліся пад уладаю санацыйнай Польшчы, аж да 1939 года не маглі займацца гэтымі пытаннямі. Палітычныя ўмовы тых часоў не былі спрыяючымі для развіцця беларускай нацыянальнай культуры.

Сёння раз і назаўсёды перакрэслены старыя дыскрымінацыйныя парадкі, стары лад. Сёння мы маем поўную свабоду і можам ганарыцца сваёй культурай, сваімі дасягненнямі, можам размаўляць на роднай мове, якую народ наш перахаваў на працягу пакаленняў, абараняючы яе, як скарб. Сёння мы смела можам поўнай жменяй чэрпаць з народнай скарбніцы багацці нашай культуры і тварыць столькі, колькі нам захочацца і колькі будзем магчы.

Тут мы прысвецім некалькі слоў Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму, які праславіў беларускае слова, беларускую песню ў іх арыгінальным гучэнні на эстрадах многіх краін.

Міхась Забэйда - Суміцкі нарадзіўся 14 чэрвеня 1900 года ў вёсцы Несцяровічы, Ваўкавыскага павета. Бацька Міхася быў батраком. Каб пратрымаць сям'ю, ён хадзіў працаваць да паноў. У сям'і было сямёра дзяцей, Міхась быў наймалодшым з іх, і як кажа сам мастак «ад добрага жыцця пяцёра дзяцей памерла, будучы яшчэ малымі». Бацька Міхася памёр, калі Міхасю споўнілася паўтара года. Маці, застаўшыся з ім і яго старэйшым братам, хворым на сухоты, апрача рук нічога не мела. Працуючы пры двары ў Бронцы, цяжка было зарабіць на хлеб. Каб пратрымаць Міхася і яго хворага брата, маці павінна была працаваць і ноччу. Як толькі падраслі хлопцы, то было лягчэй, бо і Міхась і яго брат памагалі маці. Аднак хвароба не давала спакою старэйшаму брату будучага мастака, і ён памёр, маючы 22 гады.

У адным з пісьмаў Міхась гаворыць: «Маці мая вельмі прыгожы мела голас, і калі не плакала, то спявала, ад яе я пераняў любоў да сваёй роднай песні.»

Вучобу Міхась распачаў у вёсцы Шэйпакі. Там не было школы, але хтосьці, сабраўшы некалькі дзяцей, вучыў іх. Пазней Забэйда паступіў у школу ў Зельзін, дзе начаваў у раздзявальні школы, бо кожны дзень хадзіць з Бронцаў у Зельзін было далекавата. Раз на тыдзень Міхась ішоў у Бронцы, дзе браў харчы, і ў нядзелю ізноў вяртаўся ў школу. З Зельзінскай пачатковай школы Забэйда пазней перайшоў у 2-класнае вучылішча ў Галоўчыцах, пасля сканчэння якога паступіў у Маладзечанскі настаўніцкі семінар. У 1918 годзе Забэйда - Суміцкі закончыў навуку ў семінарыі і ў гэтым жа годзе выехаў да маці ў Сібір, якая ў 1915 годзе была вывезена туды перад наступленнем.

У 1919 годзе ваенныя падзеі закінулі Міхася Забэйду аж у Харбін, дзе ён пачаў працаваць настаўнікам у школе Кітайскай усходняй чыгункі.

Малады настаўнік адчувае ў сабе здольнасць і ахвоту да песні. У 1922 годзе ён пачынае, як сам аб гэтым гаворыць, вучыцца «правідлова» спяваць у Юліі Плотніцкай, супрацоўніцы Шаляпіна, якая ў той час таксама працавала ў Харбіне.

У 1925 годзе Забэйда паступае вучыцца на юрыдычны факультэт у Харбіне, які паспяхова скончыў у 1929 годзе.

Будучы студэнтам юрыдычнага факультэта, ён адначасова настойліва паглыбляе музычныя веды. Авалодаў тэорыю, гармонію і фартэпіяна. Сумленная праца дае добрыя вынікі. Ужо ў 1929 годзе Забэйда выступае ў Харбіне ў оперы Чайкоўскага «Яўгені Анегін», дзе выконвае ролю Ленскага. Пасля гэтага дэбюту Міхась Забэйда стаецца ўжо вядомым і паўнацэнным мастаком. Пазней выступае ў ролі Князя ў оперы Даргамыжскага «Русалка», спявае партыю Рудольфа ў «Багэме» Пучыні, Уладзіміра ў оперы Барадзіна «Князь Ігар», Уладзіміра ў «Чарадзейцы» Чайкоўскага і шмат іншых.

Дасягнутыя поспехі не задавальняюць выканаўцу. Міхась марыць паглыбіць свае музычныя веды. З гэтай мэтай ён ашчаджае зарobленую капейку — хоча выехаць у Італію, тагачасную калыску мастацкіх дасягненняў артыстычнага свету.

У 1932 годзе мары Забэйды здзяйсняюцца, і ён распачынае сваю працу ў Мілане, дзе паглыбляе свае веды ў вядомага прафесара Карпі. Тут у Мілане Забэйда таксама выступае ў операх і на канцэртах, час ад часу выязджаючы на канцэрты ў іншыя гарады Італіі.

